Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск
31 студзеня - 6 лютага 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ.
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ




## Горад швачак— горад малых заробкаў



**МАЛАДЗЕЧНА. У мясцовым цэнтры занятасці насельніцтва на ўліку 62 швачкі, якія не маюць работы. Каля 50 з іх можна працаўладкаваць у дзяржаўныя і прыватныя структуры. Але лічбы амаль не мяняюцца. Толькі на нядаўнім кірмашы вакансій колькасць запатрабаваных на работу дасягнула 70.**

По дэфіцытнай спецыяльнасці людзі працаваць не спяшаюцца. Малыя заробкі. Пры выкананні вызначанай нормы ў фірме "Дзіната" заробіш мільён рублёў плюс прэміяльныя. На "Аксаміце" (былы камбінат надомнай працы), дзе заказы з Германіі, Галандыі на пашыў верхняга адзення, тарыфная стаўка 1 разраду– 175 тысяч рублёў.

У размове з беспрацоўнымі швачкамі, жанчыны чамусьці вызначылі "Аксаміт", як прадпрыемства самых жорсткіх патрабаванняў да рабочых. Яны сцвярджалі, што спецыялісты 4-5 разрадаў працуюць з ранку да ночы, каб нешта зарабіць. А калі разлічваць толькі на рабочы дзень, атрымаеш за месяц 200-300 тысяч. Тут, натуральна, уладкоўвацца спяшацца не будзеш.

Самыя рызыковыя, асабліва маладыя, становяцца прыватнымі прадпрымальнікамі. Працуюць на сябе і дзяржаву. Каму пашанцуе менш– на гаспадара. Ну, а дзесяткі сядзяць дома і атрымліваюць дзяржаўную дапамогу. Прычым колькасць швачак (таксама і беспрацоўных) будзе павялічвацца– вучэбна-курсавы камбінат "Надзея" дае кадры.

*Васіль САВІЦКІ,*
*фотакалаж*
*Міхаіла АСАЕВІЧА*
*і Алега ГУЛЕЦКАГА.*

## Адным абзацам

Адным з этапаў стварэння сумесна з групай маторабудаўнічых заводаў Расіі фінансава-прамысловай групы па вытворчасці дызельных грузавых аўтамабіляў стане раздзяржаўленне МАЗа. Пераўтварэнне аўтазавода ў адкрытае акцыянернае таварыства можа пачацца ўжо ў лютым гэтага года. З 13 студзеня завод пачаў работу ў поўным аб'ёме, штодзённа збіраецца каля 50 аўтамабіляў розных мадэляў, 700 машын знаходзяцца на складзе гатовай прадукцыі. У бліжэйшы час для паскарэння тэмпаў стварэння фінансава-прамысловай групы нацыянальныя банкі Беларусі і Расіі павінны вызначыць банк, на які будзе ўскладзена фінансаванне праекта.

У лютым, у параўнанні са студзенем, пенсіі па ўзросце павялічацца ў сярэднім на 18,5%. Мінімальная пенсія павялічыцца на 10,3%— да 336 тысяч рублёў. Памер сярэдняй пенсіі ў лютым складзе 742 тысячы рублёў і яна ўзрасце ў параўнанні са студзенем на 115 тыс. руб. Згодна з заканадаўствам, пералік пенсій праводзіцца пры павелічэнні зарплаты на 15 і больш працэнтаў. Сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у снежні ўзрасла ў параўнанні з лістападаўскай на 20,8%. Для выплаты павялічаных пенсій Фонду сацыяльнай абароны патрабуецца на 290 мільярдаў рублёў больш, чым у студзені. Па папярэдніх дадзеных, збояў у графіку выплаты пенсій быць не павінна.

На адбыўшайся ў Міністэрстве эканомікі калегіі падведзены вынікі развіцця народнай гаспадаркі ў мінулым годзе. Было заяўлена, што збалансаваць эканоміку ўдалося, дзякуючы Указу прэзідэнта. Калі раней усе намаганії накіроўваліся на выпрацоўку стабілізацыйнага механізму, то цяперашняя задача— стварыць мадэль росту.

У бліжэйшы час Міністэрства замежных спраў разгледзіць пытанне аб пераўтварэнні факультэта міжнародных адносін Белдзяржуніверсітэта ў асобны інстытут. З такім пажаданнем да дыпламатаў звярнуўся А. Лукашэнка, сын якога вучыцца на гэтым факультэце. Такім чынам, з'явіцца магчымасць рыхтаваць кадры для айчыннай дыпламатыі ў Мінску, а не ў вядомым Маскоўскім інстытуце міжнародных адносін.

У апошнім лісце да міністра адукацыі, што выйшаў з-пад пяра былога намесніка старшыні адміністрацыі прэзідэнта В. Замяталіна (ён зараз узначальвае камітэт па друку), прадпісаны рэкамендацыі, што вядуць фактычна да ліквідацыі недзяржаўнай сістэмы вышэйшай адукацыі: праверка гэтых ВНУ, іх перарэгістрацыя да 1 мая 1997 года, перагляд уступных экзаменаў. Ім забаронена выдаваць дыпломы дзяржаўнага ўзору. У лісце прапануецца шэраг крытэрыяў, якім павінны адпавядаць недзяржаўныя ВНУ; сярод іх і наяўнасць праграм навучання, з улікам дзяржаўнай ідэалогіі, што замацавана ў новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

## Навіны

### Навінка сезона

*У рэгіёне— грып-вухан. Гэты вірус нарадзіўся ў Кітаі і за лічаныя месяцы прайшоў Еўропу, Азію. Цяпер знаёміцца з намі. Цяжка паддаецца лячэнню, часцяком дае запаленне лёгкіх. Каб з "кітайцам" не сустрэцца (а калі сустрэліся, то тым болей), завітайце ў аптэкі медыцынскага прадпрыемства "Дока", што ў Маладзечне.*

— Мы маем дзве аптэкі,— гаворыць дырэктар "Докі" Уладзімір Ляшчынскі,— па вуліцы Галіцкага,12 (насупраць ГРАУС) і па Вялікім Гасцінцы, 74б (ля магазіна "Космас"). У нас добра наладжаныя сувязі з заводамі-вытворцамі медпрэпаратаў Польшчы, Балгарыі, Расіі. Таму зможам надзейна абараніць і вылечыць ад грыпу. Мы, да прыкладу, з'яўляемся адзінымі імпарцёрамі ў рэспубліку індыйскага прэпарата "Доктар Мом" (сіроп ад кашлю на лячэбных травах), і ў нас ён заўсёды. Паказаны, у асноўным, дзецям, але і дарослыя з ахвотаю бяруць яго для сябе.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Блакітная запраўка

*АСТРАВЕЦ. Заправіць уласны легкавік палівам— праблема, і не першы год. Даўно, як спыніла дзейнасць запраўка ў Філіпанах, а ехаць у Міхалішкі будзе накладным для ўласнай кішэні.*

Трэба спадзявацца, яе дапамогуць вырашыць у мясцовым гаргазе. Праўда, толькі тым, хто запраўляецца блакітным палівам. Тут завяршаецца будаўніцтва такой запраўчнай станцыі, якая ўжо напачатку мая прыме сваіх першых кліентаў.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

### Даяркі і менеджэры

*МАЛАДЗЕЧНА. На базе АПК "Маладзечанскі" адкрываюцца двухтыднёвыя курсы аператараў машыннага даення. Арганізуе і аплачвае навучанне будучых даярак цэнтр занятасці. У горадзе рабочых месцаў меншае, а ў раёне па некаторых спецыяльнасцях адчуваецца недахоп рабочых рук. Працаўладкуюць усіх, хто скончыць курчы. Магчыма, на работу і дамоў будуць падвозіць на аўтобусе.*

Таксама ў групы "Прадпрымальнік-менеджэр" запрашаюцца жадаючыя адкрыць сваю справу. Па заканчэнні курсаў будзе выдзелена бязвыплатная дапамога— дваццаць "мінімалак". А яшчэ можна будзе атрымаць крэдыт— 15 мільёнаў, але пад працэнты.

*Аддзел інфармацыі.*

## Афёры

### Вось гэта фокус!

*ВІЛЕЙКА. Сотні дзяцей з раёна і горада паспяшаліся 29 студзеня ў гарадскі Дом культуры на прадстаўленне маскоўскага цырка "Дружба". Афішы запрашалі на выступленні мядзведзяў, малпачак, акрабатаў, жанглёраў, чалавека без касцей, прапаноўвалі паглядзець на разгадванне думак на адлегласці.*

Канферансье выйшаў да дзетак і сказаў, што цырк не прапусцілі праз мытню на мяжы з-за мядзведзя. Таму будзе выступаць не маскоўская "Дружба", а беларуская "Радуга". Зразумела, мы вам, дзеткі, грошы вярнуць можам, яны нам не патрэбныя, вашыя дваццаць пяць тысяч ад кожнага. Дзеткі ж, разважыўшы, што лепш паглядзець "Радугу", чым нічога, засталіся ў зале.

*Заканчэнне на 7-й стар.*

## Ад выпіўкі да выпіўкі

# ПЯЧОРНЫЯ ЛЮДЗІ

**МАЛАДЗЕЧНА. Амаль у кожнай вёсцы ёсць дамы-пячоры. Не з каменя— звычайныя драўляныя будыніны з сабакамі на ланцугах, хатнімі прыбудовамі. Але нейкім спецыфічным сваім жыццём.**



Тут не чысцяць ад снегу прыступкі і па ганку ідзеш, быццам па ледзяной горцы. Даўно забыліся, што такое рамонт, чысціня і парадак. Тут не ў пашане праца. Людзі жывуць ад выпіўкі да выпіўкі, нараджаюць дзяцей, скардзяцца на жыццё і далёка наперад не зазіраюць. Аб планах гавораць трыма словамі: "Як бог дасць." З некаторымі такімі сем'ямі мы сустрэліся, выехаўшы з раённай камісіяй па справах непаўналетніх.

Гарадоцкі сельсавет, вёска Белева, сям'я Клемантовічаў. Дзеці, а іх трое, кралі буракі, цёрлі іх і елі. Дапамагалі на пахаваннях, вяселлях, каб пакармілі. Сямікласнік Іван: "Сёння паснедаў— скварка ёсць, бо свінню ў нядзелю закалолі. Бывае, устанем з Зінкай (першакласніцай)— маці няма. Па некалькі дзён адсутнічае і невядома дзе. Татка добры. Працуе трактарыстам. Блага, што зашмат п'е."

*Заканчэнне на 2-й стар.*

## Суббота, 8 февраля

**БТ** 8.00, 15.00, 21.00 Новости. 8.10 "Музыкальная обойма". Белорусский хит-парад. 8.15 "Регион". Передача из Гродно. 8.45 Здоровье. Нетрадиционная медицина. 9.15 Уроки Н.Новожиловой. 9.45 "Все про все". Информационно-познавательная программа для детей. 10.10 Мир природы и увлечений. 10.35 Многоголосие. Народы Беларуси: история, культура, быт. 11.10 Олимп: от подножия к вершине. 11.30 "Крок". КВН. Финал открытого чемпионата Беларуси. Рязань — Витебск. 12.25 "Око". О рекламе и не только... 12.45 Вас вызывает Спортландия. Товарищеская встреча школьников Беларуси и Узбекистана. 13.50 Коллаж. Программа для деловых людей. 14.20 Зорная ростань. Телеконкурс молодых артистов эстрады. 15.10 Четвертое измерение. "До востребования". 15.35 "Музыкальная обойма". Итоги недели. 15.50 Галерея. Художник-керамист Александр Зименко. Авторская программа Т.Егоровой. 16.20 "В Новый год — с надеждой и добром". Часть 1-я. 18.35 По вашим просьбам. "Милый, дорогой, любимый, единственный". Худ.фильм. 19.45 "Банка комиксов". Премьера юмористического фильма "Деревенский репортаж". 20.40 Колыбельная. 21.50 Адриано Челентано в худ.фильме "Вот мы какие" (Италия). 23.50 **Видимо-невидимо.** 0.50 Темная комната. Уголовный розыск.

**1 ОРТ** 6.55 Приключения в небе и на море в фильме "Последний дюйм". 8.25 Премьера мультсериала "Большое путешествие Болека и Лелека". 8.45 Домашняя библиотека. 9.00, 14.00, 17.00 Новости. 9.15 Слово пастыря. Митрополит Кирилл. 9.30 Не зевай! 10.00 Утренняя почта. 10.35 Смак. 10.55 Возвращение Третьяковки. История одного шедевра. 11.20 Все фильмы Гайдая. "Инкогнито из Петербурга". 12.55 Бал олимпийцев в Кремле. 13.30 Очевидное — невероятное. 14.20 Мультфильмы "Ну, погоди!", "Исполнение желаний". 15.00 Биатлон.Чемпионат мира. 4х7,5 км. Эстафета. Женщины. 16.15 Леонид Якубович в телеигре "Колесо истории". 17.20 В мире животных. 17.55 "Страшная история". Мультфильм. 18.05 Погода. 18.10 "Золотая серия". "Кавказская пленница, или Новые приключения Шурика". 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.50 Программа передач. 20.55 Приключенческий сериал "Сегун". 21.55 "Каламбур". Юмористический журнал. 22.25 Хоккей с мячом. Чемпионат мира. Полуфинал. 23.20 Коллекция Первого канала. Жерар Депардье и Фанни Ардан в фильме Франсуа Трюффо "Соседка". 1.15 Программа передач.

**РТР** 7.00 Мультфильмы. 8.15Теле журнал "Здоровье". 8.25 "Фрам — полярный медведь". Детский сериал (Румыния). 3-я серия. 9.15 Клуб "Адреналин". 9.30 По вашим письмам. 10.00 Вести в одиннадцать. 10.30 Парламентская неделя. 11.20 "Красная книга". Экологическая экспедиция РТР. 11.35 Лучшие игры НБА. 12.30 Анонимные собеседники. 13.00 Вести про... 13.20 Диалоги о животных. 13.50 "В минуту жизни трудную..." Романсы в исполнении М.Шутовой. 14.00 Бесконечное путешествие. 14.35 "Поэт в России — больше, чем поэт". 15.05 "Темная" для М.Полторанина. 15.20 "И свяжет телефон сердца..." Музыкальная программа. 16.15 Субботний вечер Российского телевидения. 16.25 "Старая квартира". Год 1949. 17.55 Субботний вечер с Пеле. 19.00 Вести. 19.50 "Стреляй на поражение". Худ.фильм (США). 21.50 Погода на завтра. 22.05 Совершенно секретно. 23.00 Репортер. 23.30 Программа "А".

**5** 9.10 "Честь имею". Военное обозрение. 9.40 "Никудышная". Худ. фильм (Грузия). 11.10 Ток-шоу "Наобум". Константин Райкин. 11.35 Мультфильм. 11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Информ ТВ. 12.10 К 60-летию Петербургского ТВ. Телевизионный театр о Пушкине. 14.10 Еще одна Россия. 14.45 Театральная провинция?.. 15.10 Исторические расследования. 16.05 Чемпионат России по мини-футболу. Прямая трансляция. 16.30 Игра "Бинго". 17.30 "Объявлен розыск". Телеспектакль. Часть 1-я. 18.40 Большой фестиваль. 19.25 "Любимый раджа". Худ. фильм (Индия). 1-я серия. 20.40 Мультфильмы для взрослых (Болгария). 20.55 Светская хроника. 21.10 Блеф-клуб. 21.45 "Парад парадов" представляет Алену Апину. 22.25 "Любимый раджа". Худ. фильм (Индия). 2-я серия.

**НТВ** 7.00 Сегодня утром. 9.00 Мультсериал. "Динозаврик по имени Динк" (США). 9.30 Телеигра "Пойми меня". 10.00 Мир приключений и фантастики. Худ. фильм "Тарзан" (США). 9-я серия. 10.45 Мультфильм. 11.00, 15.00 Сегодня днем. 12.00 Хоккей. Кубок Глобена. Сборная Швейцарии — сборная России. 14.30 "Панорама" с Всеволодом Овчинниковым. 16.00 "Звездная пыль". Благотворительный аукцион музыкального канала НТВ-плюс. 16.30 Мультсериал "Человек-паук" (США). 17.00 Время "Ч" с Ольгой Кучкиной. 17.30 Док. сериал. "Криминальная Россия: современные хроники". 18.00, 21.00 Сегодня вечером. 18.30 Комедийный сериал. "Дела смешные, дела семейные". 19.00 Худ. фильм "Миллион лет до нашей эры" (Великобритания). 20.45 Куклы. 21.45 Премьера сериала "Байки из склепа". 1-я и 2-я серии. 22.35 Руский альбом. Дмитрий Маликов. 23.00 Субботнее шоу Николая Фоменко "Империя страсти". 23.35 Третий глаз. 0.05 Ночной канал. "Плейбой-шоу".

## Воскресенье, 9 февраля

**БТ** **8.00** "Спорт и открытия". **8.20** Мультфильмы. **9.05** "Тепе бом". **9.45** Студия "Колыбельная". "Все дело в шляпе". **10.20** "Все нормально, мама!" Развлекательная программа. **10.45** Туробъектив. **11.10** "Остров вдохновения". **11.25** Студия "Окно". "Накануне будущего", "Телек-шоу". **11.50** Творцы. Художник Генрих Бржозовский. **12.10** Голоса прошлого. Вокальные миниатюры Михала Клеофаса Огинского. **12.45** Вершина мира. Телевикторина. **13.15** Телевизионный АРТ-клуб. Народная артистка Беларуси Лилия Давидович. **13.45** "Война в воздухе". Док.сериал. **14.10** Сельчане. Принимает участие заместитель министра сельского хозяйства и продовольствия Беларуси И.П.Шакола. **14.40** История любви. Жанна и Василий Ясюки. **15.00** Новости. **15.10** Концертный сезон. Государственный ансамбль "Песняры". **15.55** Гости в дом. Мост. **16.25** "В Новый год — с надеждой и добром". Часть 2-я. **19.10** Бездельник. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** Спортивный телекурьер. **21.10** Новости-ТВ. **21.30** Ток-шоу "Карамболь" с участием актрисы Елены Яковлевой. **22.10** "Синема": "Пикник у Висячей Скалы". Худ.фильм (Австралия). **0.05** Бархатный сезон.

**1 ОРТ** **7.00** Фильм "Васек Трубачев и его товарищи". **8.20** Мультфильмы нашего детства. "Остров ошибок", "Боцман и попугай". 4-й выпуск. **9.00, 14.00, 17.00, 22.30** Новости. **9.15** "Непутевые заметки" Дм.Крылова. **9.30** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** Служу России! **11.30** Играй, гармонь любимая! **11.55** Провинциальные истории. **12.20** Как-то раз. **12.35** Сериал "Подводная одиссея команды Кусто". "Снежная буря в заливе надежды". **13.25** Смехопанорама. Ведущий — Е.Петросян. **14.20** Игорь Моисеев и его ансамбль в программе "Приглашение к музыке". **15.00** Клуб путешественников. **15.45** Мультфейерверк: "Розовая пантера", "Приключения Вуди и его друзей". **16.30** Счастливый случай. **17.20** Один на один. Ведущий — А.Любимов. **17.45** Погода. **17.50** КВН-97. **19.50** Киноафиша. **20.00** Время. **20.30** Программа передач. **20.40** Приключенческий сериал "Сегун". **21.35** Хоккей с мячом. Чемпионат мира. Финал. **22.40** Футбольное обозрение. **23.10** Джон Траволта в музыкальной комедии **"Бриллиантин"**. **1.00** Программа передач.

**РТР** **7.00** Мультфильмы. **7.55** "Фрам — полярный медведь". Детский сериал (Румыния). 4-я серия. **8.45** Лотерейные новости. **9.00** Присяга. **9.30** Доброе утро, страна! **10.10** Приз группы "Савва". **10.15** Русское лото. **10.55** Книжная лавка. **11.25** Человек на Земле. **11.55** Чемпионат мира по биатлону. Мужчины. Эстафета 4х7,5 км. **13.50** Поют драматические артисты. **14.20** 21 кабинет. **14.50** Пилигрим. **15.20** Сад культуры. **15.45** Ничего, кроме... **16.00** Волшебный мир Диснея. "Аладдин". **16.55** Весь мир. **17.40** Телескоп. **18.20** Караоке по-русски. **19.00** Зеркало. **20.00** Репортаж ни о чем. **20.15** Погода на завтра. **20.20** Истории любви. "Темные аллеи". Худ. фильм. **21.55** "К-2" представляет: программа Ивана Дыховичного "Уловка 22". **22.50** "У всех на устах". Программа Натальи Дарьяловой. **23.05** У Ксюши. **23.35** Рек-тайм.

**5** **8.40** Целительное слово. **9.10** Папа, мама и я — спортивная семья. **9.40** Овертайм. **10.10** "Охотники". Док.сериал (США). 2-я серия. **11.00** "Старое танго". Балетмейстер Д.Брянцев. **11.25** "Золотой пеликан". **11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Обратный отсчет. **12.10** "Вскую прискорбно..." Фильм-посвящение памяти А.С.Пушкина. **12.20** "Последняя дорога". Худ. фильм (Россия). **14.10** Еще одна Россия. **15.10** "Онегин и Ленский в гриме и без". **16.10** Оперная сенсация. Олег Рябец. **16.35** Детское ТВ: "Золотой ключ", "Бросайка". **17.30** "Объявлен рэзыск". Телеспектакль. Часть 2-я. **18.40** Сокровища Петербурга. "Ханс и Софи Арп". **19.20** Спортивная программа. **20.55** У всех на виду. **21.10** Ноу смокинг. **21.55** Международное обозрение. **22.30** "Видение шабаша". Худ. фильм (Россия).

**НТВ** **7.00** Сегодня утром. **9.00** Устами младенца. **9.30** Теле игра "Пойми меня". **10.00** Мир приключений и фантастики. Худ.фильм "Тарзан". 10-я серия. **10.45** Мультфильм. **11.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Книжный магазин. **12.30** Джина Лоллобриджида в худ.фильме "Имперская Венера" (Италия-Франция). **14.30** Телеигра "Своя игра". **16.00** Кино 80-х. "Ночь коротка". Худ.фильм. **17.30** Воскресная передача Николая Фоменко "Русские гвозди". **18.00** Сегодня вечерои. **18.30** Комедийный сериал. "Дела смешные, дела семейные". **19.00** Сериал по выходным. "Гангстерские хроники: американская история" (США). **20.00** Итоги. **21.10** Премия "Оскар". Кристофер Рив, Марлон Брандо, Джин Хэкман в в фильме Ричарда Доннера "Супермен" (США). **23.45** Магазин на диване. **0.15** Ночной канал. Эротические шоу мира.

Тэст-гульня

# ПАКАЖЫ СВАЕ МАРШЧЫНЫ






Канечне, маршчыны— прыкмета старэння. Але па іх можна так сама меркаваць і аб характары чалавека. Прапануем вам паспрабаваць.

**САРАМЛІВАСЦЬ.** Пра яе гавораць маршчынкі вакол рота. Яны з'яўляюцца ў людзей, якія ўсяго баяцца і адчуваюць неабходнасць знаходзіцца пад чыёйсьці абаронай.

**СУМЛЕННАСЦЬ І АДДАНАСЦЬ.** Маршчынкі ўтвараюць маленькія гарызантальныя лініі над знешнім краем броваў.

**ТРЫВОГА.** Увесь твар становіцца быццам зморшчаным, нагадвае печаны яблык. А над брыовамі з'яўляюцца дзве вуглаватыя маршчыны.

**ЗДЗІЎЛЕННЕ.** У людзей, якія здзіўляюцца ўсяму на свеце, як правіла, ёсць "стосік" гарызантальных маршчынак над вачамі.

**ЛЮДЗІ ТЫПУ "ШЭРЛАК ХОЛМС".** У тых, хто больш звычайнага звяртаюць увагу на дробныя дэталі, з'яўляюцца маршчынкі вакол вачэй— "гусіныя лапкі".

**ІНТЭЛІГЕНТНАСЦЬ.** У такіх людзей на ілбе паміж вачэй пралягае глыбокая маршчына. Праўда, часам яна з'яўляецца і ў людзей сарамлівых, а калі такая маршчына ёсць у чалавека з нізкім ілбом, то гэта паказвае, што ён заклапочаны праблемамі, якія для яго невырашальныя.








**ПРАДБАЧЛІВАСЦЬ І СПАГАДЛІВАСЦЬ.** Людзі, якія валодаюць гэтымі дабрачыннасцямі, звычайна маюць амаль ва ўвесь лоб (без перарыву) гарызантальныя маршчыны. Але калі такія ж складкі ўтвараюцца за кошт шматлікіх маленькіх гарызантальных маршчын, гэта азначае няздольнасць завяршаць справы і схільнасць да плётак.

**РАСЧАРАВАННЕ.** Самая тыповая складка ў такім выпадку пачынаецца ад ноздраў і заканчваюцца ля краю вуснаў. Калі да гэтага дадаюцца маршчынкі, што пачынаюцца ад вачэй, значыць, чалавек знаходзіцца на мяжы сваіх магчымасцяў, а калі маршчыны працягваюцца і ніжэй за рот, то гэта гаворыць аб фізічных пакутах.

**АБЫЯКАВАСЦЬ.** У гэтым выпадку маршчын саміх па сабе не бывае. Проста мышцы шчокаў аслабленыя, таму ў куточках роту ўтвараецца складка. Гэта таксама прыкмета ляноты.

Патрэніруйцеся ў расшыфроўцы маршчынак— і хутка вы станеце непераўзыдзеным фізіянамістам. Ва ўсякім выпадку, характар вашага новага знаёмага вам будзе зразумелым з першага погляду.

***Паводле балгарскага часопіса "Паралелі".***

Для тых, хто верыць прадказанням

# ПРА ШТО ПІСАЎ НАСТРАДАМУС

***Мікаэл Настрадамус жыў у 16 стагоддзі— ён нарадзіўся ў 1503 годзе ў Францыі. Яго прадбачанні ахопліваюць перыяд у 2240 год, з 1557 па 3797 год. Кнігі прадказанняў Настрадамуса напісаны ў форме цэнтурыяў (цэнтурыя ўключае 100 радкоў). Акрамя дакладнай даты свaёй смерці ў 1566 годзе ён прадбачыў наступныя важныя падзеі:***

1582 год— Грыгарыянскі каляндар;
1597 год— крэмневыя ружжы;
1606 год— з'яўленне вучэння Галілея;
1618 год— вынайдзены тэрмометр;
1692 год— адкрыта Аўстралія;
1769 год— паравая машына;
1776 год— незалежнасць ЗША;
1778 год— вынайдзены паветраны шар;
1789 год— рэвалюцыя ў Францыі;
1795 год— адкрыта электрычнасць;
1812 год— Напалеон разбіты ў Расіі;
1825 год— першая чыгунка ў Англіі;
1844 год— вынайдзены тэлеграф;
1866 год— вынайдзены тэлефон;
1869 год— пракапаны Суэцкі канал;
1873 год— электрычная лямпачка;
1876 год— вынайдзены тэлефон;
1895 год— рэнтгенаўскі апарат;
1903 год— першы самалёт;
1912 год— вайна на Балканах;
1914 год— пракапаны панамскі канал;
1914 год— першая Сусветная вайна;
1917 год— кастрычніцкая рэвалюцыя;
1925 год— тэлебачанне;
1927 год— пералёт чалавека на самалёце цераз Атлантычны акіян;
1927 год— зняты першы гукавы фільм;
1929 год— пач. вялікага эканамічнага крызісу;
1939 год— пачатак ІІ Сусветнай вайны;
1961 год— першы чалавек у космасе;
1969 год— першы чалавек на Месяцы.

Настрадамус прадказаў лёсы многіх манархаў і высокапастаўленых асоб, перыяды кіравання дынастый, Французскую рэвалюцыю, якая адбылася праз 200 год пасля яго смерці. Прадказаў, што значэнне гэтай рэвалюцыі будзе мець далёкія вынікі, стане вырашальным не толькі для Францыі, але і для свету. Пра кастрычніцкую, якая працягнецца 73 гады і 7 месяцаў Настрадамус пісаў, што ў дзяржаве варвараў большая частка прыдворнай знаці будзе адпраўлена на смерць.

Ён прадказаў прыход нацыянал-сацыялістаў, Гітлера з яго выцягнутай рукой, грамадзянскую вайну ў Іспаніі, нараджэнне новай філасофіі за межамі краіны (марксізм), стварэнне атамнай бомбы і хімічнай зброі.

Вельмі цікавым спосабам вылічаны Настрадамусам годы пачатку трох сусветных войнаў. Дзве з іх ужо адбыліся, трэцяя быццам бы яшчэ чакаецца. У сваіх прадказаннях ён прадугадвае заканчэнне Бурскай вайны ў Афрыцы ў 1902 годзе. Для таго, каб вылічыць дату пачатку першай Сусветнай вайны, ён карыстаецца гэтай лічбай, запісаўшы спачатку гарызантальна, а потым вертыкальна. Атрымліваецца:

```
  1902
+    1
     9
     0
     2
  1914
```

Такім самым спосабам, толькі дадаючы год заканчэння першай Сусветнай, вызначае ён пачатак другой Сусветнай вайны.

```
  1919
+    1
     9
     1
     9
  1939
```

Каб высветліць, калі пачнецца трэцяя сусветная вайна, прарок раіць год пачатку першай скласці з пачаткам і годам заканчэння другой сусветнай вайны:

```
  1914
+   39
    45
  1998
```

Цывілізацыя хрысціян моцна пацерпіць. Празорца прадказвае моцныя дажджы, пякучыя вятры, разбураныя палі. Азіяты будуць незлічоныя, вельмі моцна ўзброеныя. Антыхрыста знішчаць ў 1999 годзе. У 2000 ўсталюецца мір і дастатак. Аднак ў 2023 годзе зямля сыдзе з арбіты. Дзіўна, але, згодна з прадказаннямі прарока, гэта не пацягне за сабой канца свету, працягласць якога па яго разліках ад Адама да прышэсця Хрыста 4757, а ад Хрыста да свайго знікнення- 3797 гадоў.

***Алесь ЦАДКО паводле кнігі Ганса Люкса "Астралогія і гараскопы Настрадамуса" (1811).***

